


# Мазырскія Навіны

*Гавары - і цябе пачуюць*

**сакавік, 2014**

ГРАМАДСКАЕ ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ВЫДАННЕ


# ВЫБАРЫ БЕЗ ВЫБАРА…

У Беларусі прайшлі выбары ў мясцовыя Саветы. Якія высновы можна зрабіць на мясцовым узроўне?
Па-першае, гэта дэкаратыўнае адлюстраванне, так званага, мясцовага самакіравання.

Фактычна такога інстытута ўлады на Беларусі не існуе. Такая форма кіравання больш падыходзіць да тэрміну “мясцовае кіраванне”. У чым жа розніца паміж гэтымі падыходамі?

“Мясцовае кіраванне” – гэта кіраванне пэўнай тэрыторыяй. Мясцовая вертыкаль сама прызначае ў Саветы сваіх вылучэнцаў і сама вырашае, што на гэтай тэрыторыі патрэбна рабіць. Таму і склад дэпутатаў мясцовых Саветаў толькі з дырэктароў прадпрыемстваў і установаў. Палітыкам тут месца няма. У палітыкаў ёсьць сваё меркаванне, а каб вызначыць рашэнне праблемы найбольш слушнае, патрэбна дыскусія… Дзеля гэтага патрэбна мець адпаведныя веды і прафесійна займацца мясцовым кіраваннем.

З дырэктарамі прасцей… Яны прызвычаіліся да адзінаначаліцтва на прадпрыемствах і ў саветах будуць выконваць толькі прапановы-загады выканаўчай ўлады. Зацюканыя эканамічнымі (як разгрузіць склады ад прадукцыі, якую ніхто не бярэ), тэхнічнымі праблемамі (як правесці мадэрнізацыю і не патрапіць за краты), гэтым прызначэнцам не да дыскусіяў, а тым больш не высоўвацца са сваім асабістым меркаваннем. Аднагалосна “за”… а як гэта паўплывае на інтарэсы грамадзян, вырашэнне іх праблемаў – гэта ўжо іншы клопат, іншых структураў… Дырэктара можна прымусіць-“папрасіць” нешта зрабіць для горада, а лепш выдзеліць грашовыя сродкі…

“Мясцовае самакіраванне” – гэта калі мясцовыя ўлады ведаюць праблемы, патрэбы людзей адпаведнай тэрыторыі і працуюць на вырашэнне гэтых праблемаў, задавальняючы патрэбы людзей, тым самым павышаюць якасьць жыцця грамадзян. Аднак, гэта магчыма, калі грамадзяне самі вылучаюць ў Саветы сваіх прадстаўнікоў, альбо аддаюць свае галасы прадстаўніку палітычнай партыі, абіраюць “мэраў”, “губернатараў” з некалькіх кандыдатаў. У людзей павінен быць ВЫБАР. А зрабіўшы выбар, у грамадзян павінны быць сродкі кантролю за іх дзейнасцю і іх справаздачнасцю грамадству.



**А як жа гэта праходзіла насамрэч у Мазыры ў гэтым годзе?**

На ўсе 40 выбарчых акругаў у Мазырскі райсавет і 6 у Гомельскі аблсавет былі прызначаныя кіраўнікі прадпрыемстваў і установаў. Менавіта прызначаныя! Разам сабрацца і размеркаваць акругі паміж сабой дырэктары наўрад бы здолелі. Для гэтага патрэбна нейкая матывацыя. І па некатарых акругах былабы канкурэнцыя А так адзін кандыдат на адну акругу. Нават чатыры жыхары з Калінкавічаў рашылі “папрацаваць дэпутатамі” ў Мазырскім райсавеце.

Гэтыя кандыдаты-дырэктары, нават, не абцяжарвалі сябе адчыняць выбарчыя фонды, каб рабіць агітацыйныя ўлёткі, праводзіць сустрэчы з выбаршчыкамі. На сустрэчу ў ДК “МНПЗ” з 6-цю кандыдатамі мікрараёна “Маладзёжны” не прыйшло ніводнага выбаршчыка! Таму і галасоў “супраць” за такіх кандыдатаў было вельмі зашмат. Гэта быў адказ на той прымус, які быў учынены да працаўнікоў калектываў, патрабуючы іх абавязкова прагаласаваць датэрмінова. Самі выбарчыя камісіі (а туды трапляюць самыя цынічныя і безпрынцыпаў людцы) не даверылі выбар самім выбаршчыкам. Па- першае, была ўстаноўка забяспечыць яўку 70%, як пажадаў галоўны выбаршчык краіны. Па-другое, што і здарылася, шмат выбаршчыкаў прагаласавала “супраць”. Таму і быў здзейснены ўкід 300-350 бюлетэняў у скрыню датэрміновага галавання. А калі дабавіць, што ў парушэнне Выбарчага кодэкса, людзі сталага веку, чыноўнікі галасавалі за сябе і свайго родзіча, за суседзяў… Ці з’яўляецца такая ўлада абранай людзімі? Хутчэй прызначанай самімі ж чыноўнікамі.

Раённая выбарчая камісія вельмі цікавіцца подпісамі выбаршчыкаў за незалежных, альбо апазіцыйных кандыдатаў. І каб пазбавіць рэгістрацыі адпаведных кандыдатаў, адпраўляе на праверку подпісаў судова-крымінальнаму эксперту. А каб праверыць подпісы ў выбарчых спісах? Колькі б там аказалася аднолькавых подпісаў выбаршчыкаў, несапраўдных подпісаў, альбо подпісаў саміх сябраў выбарчых камісіяў?!

Нас усіх, грамадзян Беларусі, пазбавілі права ВЫБАРУ. У нас усіх украілі гэтае права. **Выбар з аднаго кандыдата**, занесенага ў бюлетэнь, “ЗА”, альбо “СУПРАЦЬ” – гэта не выбар. Галасуючы “супраць” – гэта выбар безадказнага выбаршчыка. Гэта выбар за анархію і безуладдзе.

***Стах МАЗЫРСКІ***

# ВЫБОРЫ 2014

## Мазыр: кандыдату ў абласны савет вынеслі папярэджанне

Кандыдату ў дэпутаты Гомельскага аблсавета па Баброўскай выбарчай акрузе №44 у Мазыры Уладзіміру Рэпко акруговая выбарчая камісія вынесла папярэджанне. Як паведамляе назіральнік Уладзімір Целяпун, кандыдата абвінавацілі ў тым, што ён распаўсюджваў свае агітацыйныя матэрыялы без стварэння выбарчага фонда кандыдата і парушыў артыкулы 45 і 47 Выбарчага кодэкса Беларусі. Уладзмір Рэпко балатуецца ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

«Трэба адзначыць, што на сённяшні момант у мясцовай газеце надрукавана толькі адна абвестка пра стварэнне выбарчага фонда кандыдата. Можна меркаваць, што ні адзін праўладны кандыдат не абцяжарваў сябе турботамі па стварэнню сваіх выбарчых фондаў, - лічыць назіральнік. - Кандыдатам-дырэктарам гэтая праца не патрэбная. Усё зробяць самі выбарчыя камісіі. Ужо надрукаваная, размешчаная на інфармацыйных стэндах і раскіданая па паштовых скрынях інфармацыя па кандыдатах у раённы і абласны Саветы".

*"Праваабаронцы за свабодныя выбары"*
http://spring96.org/be/news/69769

## Цуды датэрміновага галасавання ў Мазыры: 335 чалавек за 240 хвілін




22 сакавіка на ўчастку №27 Паўднёвай акругі ў Мазыры, згодна з дадзенымі пратакола выбарчай камісіі, за дзень прагаласавалі 373 чалавека. Як паведаміў кандыдат у дэпутаты Мазырскага раённага савета Міхаіл Караткевіч, на дадзеным участку 22 сакавіка за датэрміновым галасаваннем назірала яго давераная асоба Рыгор Крывіцкі.

«Згодна з дадзенымі назіральніка, які быў на ўчастку з 16.00 да 19.00, там прагаласавалі 38 чалавек. Тады выходзіц, што з 10 да 14 гадзін свае галасы аддалі 335 выбаршчыкаў, гэта за 240 хвілін! Вось такія рэкорды паставіла ўчастковая выбарчая камісія», - зазначыў Міхаіл Караткевіч.

*"Праваабаронцы за свабодныя выбары"*

## Рэдактар мазырскай раёнкі праслаўляе выбары і Беларусь, перадрукоўваючы свой жа артыкул чатырохгадовай даўніны

На сайце мазырскай раённай газеты «Жыццё Палесся» з'явіўся артыкул за подпісам галоўнага рэдактара Ларысы Чорнай пад назвай **«Землякі вы мае землякі. Беларусь ты мая Беларусь!».**

Рэдактар у сваім пафасным стылі нагадвае чытачам пра выбары, «гэты вялікі і доўгачаканы дзень, пра які так шмат гаварылася і пісалася». Сапраўды, шмат пісалася пра выбары! Асабліва Ларысай Чорнай. І не толькі пра выбары. Як выявілася, дадзены пафасны артыкул яна **напісала чатыры гады таму**, і прысвечаны ён быў тады Усебеларускаму сходу ў 2010 годзе. Як кажуць – знайдзіце розніцу.

Знайдзіце розніцу – чаго гэта ў рэдактара як у 2010 годзе, так і ў 2014 «душа святкуе і радуецца».

Варта заўважыць, што артыкул-панегірык перапісаны слова ў слова, толькі «Усебеларускі сход» заменены на «выбары ў мясцовыя Саветы». Як і чатыры гады таму, рэдактар піша пра нейкіх сяброў з Нідэрландаў, якія, як толькі трапілі ў Мазыр, дык здзівіліся да глыбіні душы чысціні ды добраўпарадкаванню. Відаць, чатыры гады не могуць адысці ад захаплення палескім райцэнтрам нейкія «сябры з Нідэрландаў».

Так усе ў Беларусі добра! І чатыры гады таму, і зараз, у 2014! Што не варта і новыя артыкулы пісаць, можна толькі старыя браць і перадрук рабіць! «Радуйся, сэрца, ганарыся!», - як піша выдатнік друку Ларыса Чорная.

У тэксце яна, канечне, успомніла прэзідэнта добрым словам. І «Дажынкі». Праўда, у тэксце, надрукаваным 4 гады таму, было напісана «Дажынкі-2010», у «сучасным» жа варыянце артыкула - «Дажынкі-2013».

Хваліць у артыкуле ўсё і усіх выдатнік друку, славіць беларускія ўлады на поўную меру. Заклікае моладзь: «Інтэлектам сваім пракладай шлях да зорнай ростані!». А прыклад ёсць жа браць з каго! Ну хоць з галоўнага рэдактара газеты! Напішы адзін раз артыкул – а затым кожныя чатыры гады яго перадрукоўвай, ганарары атрымлівай, толькі даты змяняй.

*"Праваабаронцы за свабодныя выбары"*

# Калінкавіцкі суд пастанавіў спагнаць з актывіста АГП больш за 2 мільёны рублёў

1 красавіка ў судзе Калінкавіцкага раёна было абвешчана рашэнне па грамадзянскаму зыску супраць актывіста АГП з Калінкавіч Дзяніса Рабянка. Згодна з рашэннем суддзі Кугейка, актывіст АГП павінен выплаціць 2 мільёны 220 тысяч рублёў.

Нагадаем, што яшчэ ў красавіку 2013 года Дзяніс Рабянок стаў ахвярай нападу суседа па доме, які распыліў актывісту АГП у вочы газавы балончык. Як вынік – Дзяніс Рабянок атрымаў хімічны апёк вачэй, з вострай алергічнай рэакцыяй яго забрала "хуткая дапамога", а ў далейшым ён вымушаны быў прайсці лячэнне ў афтальмолага. Калінкавіцкая міліцыя ўпарта не жадала складаць пратакол супраць нападніка і зрабіла вінаватым самога актывіста АГП, абвінаваціўшы яго як быццам у збіцці суседа. У чэрвені 2013 года суд Калінкавіцкага раёна прызнаў Дзяніса Рабянка вінаватым у парушэнні артыкула 9.1 Адміністрацыйнага кодэксу і пакараў штрафам. Пасля скаргі ў абласны суд пастанова Калінкавіцкага суда была адменена, а справа накіравана на новы разгляд, падчас якога суддзя Савасцянава зноў прызнала актывістам вінаватым, але спыніла справу з-за сканчэння тэрмінаў. У той жа час актывіст АГП дабіваўся таго, каб прыцягнуць нападніка, чые дзеянні маглі скончыцца для Дзяніса Рабянка стратай зроку і інваліднасцю, да адказнасці. Дзеля гэтага яму неаднаразова прыйшлося звярнуцца са скаргамі да начальніка Калінкавіцкага РАУС і пракурора Калінкавіцкага раёна. Шматмесячная эпапея скончылася тым, што суд над грамадзянінам, які распыліў у вочы актывісту АГП газавы балончык усё ж такі адбыўся (пасля падачы 2-х скаргаў у абласны суд), але ўсё тая ж суддзя Савасцянава прызнала дзеянні нападніка цалкам законнымі і спыніла справу.

У пачатку ж сакавіка 2014 года Дзяніс Рабянок даведаўся, што грамадзянін, які год таму здзейсніў на яго напад, падаў супраць актывіста АГП грамадзянскі зыск у агульным памеры больш за 10 мільёнаў рублёў аб спагнанні маральнай шкоды і аплаты паслуг адваката. 31 сакавіка ў судзе Калінкавіцкага раёна адбыўся разгляд справы. Прычым, сам заяўнік на суд не з'явіўся, замест яго прысутнічаў адвакат. Падчас судовага паседжання Дзяніс Рабянок катэгарычна адмовіўся прызнаваць заяўленыя адносна яго патрабаванні, падкрэсліўшы тое, што лічыць пастанову суда, згодна з якой ён прызнаны вінаватым як быццам "у нанясенні цялесных пашкоджанняў" незаконнай. Акрамя таго, актывіст АГП звярнуў увагу суда на тое, што грамадзянін, які падаў супраць яго іск, і які як быццам быў "моцна збіты", нават не звярнуўся за медычнай дапамогай, у той час, як сам Дзяніс Рабянок атрымаў значны ўдар па здароўю.

Акрамя таго, Адміністрацыйны кодэкс не прадугледжвае спагнанне сродкаў, якія былі затрачаны на аплату паслуг адваката. Пра гэта актывіст у пісьмовым выглядзе паведаміў суду яшчэ да пачатку судовага паседжання. Былі пытанні і з дакументальным пацвярджэннем саміх выдаткаў "пацярпелага" – замест прадугледжаных законам квітанцый аб аплаце ў справе фігуравала даведка з юрыдычнай кансультацыі нявызначанага ўзору. У выніку суд вырашыў спагнаць з актывіста АГП 1 мільён рублёў для пакрыцця як быццам нанесенай маральнай шкоды, 800 тысяч рублёў для пакрыцця выдаткаў заяўніка па вядзенні грамадзянскага працэсу (паслугі адваката), а таксама 390 тысяч рублёў дзяржаўнай пошліны і 30 тысяч дзяржвыдаткаў, звязаных з разглядам справы. Агулам – 2 мільёны 220 тысяч рублёў.

«У гэты раз, як, дарэчы, і на ўсіх мінулых судовых паседжаннях, якія тычыліся нападу на мяне, я неаднарозова казаў пра тое, што не прызнаю законнай пастанову Калінкавіцкага суда, згодна з якой мяне прызналі вінаватым у парушэнні закона. А менавіта на гэтым дакуменце і быў заснаваны пададзены супраць мяне грамадзянскі зыск. Сведкі неаднаразова давалі паказанні на маю карысць, засведчыўшы маю поўную невінаватасць. Усе яны дарослыя людзі і замацавалі свае словы подпісам аб магчымай




*Дзяніс Рабянок*

крымінальнай адказнасці. Тым не менш, суд беспадстаўна і без тлумачэнняў адпрэчыў іх сведчанні. Затое так званаму "пацярпеламу" і сведку з яго боку паверыў ва ўсім, хаця ніхто і нішто не пацвярджае яго прысутнасць на месцы здарэння. Зараз жа, зыходзячы з гэтай пастановы, я яшчэ павінен выплаціць вялізную суму грошай. На мяне напалі, я мог застацца інвалідам ды яшчэ і заплаціць прымушаюць! - каментуе пастанову Калінкавіцкага суда Дзяніс Рабянок. - Я ўжо не кажу пра тое, што і Калінкавіцкая міліцыя, і Калінкавіцкі суд рабілі ўсё, каб гэты грамадзянін пазбег адказнасці за тое, што мог пакінуць мяне сляпым. Напачатку суд, свядома парушыўшы закон, нават не прыняў да разгляду складзены ў адносінах да нападніка пратакол. Што тут казаць?..»

Актывіст АГП лічыць, што і напад на яго, і міліцэйска-судовы пераслед самым непасрэдным чынам звязаны з яго актыўным удзелам удзелам у грамадска-палітычным жыцці рэгіёна і яго адкрытай пазіцый. «Ведаеце, у нашых умовах быць актыўным сябрам апазіцыйнай партыі - гэта, часам, вельмі небяспечна для здароўя. Асабліва зараз, калі разгортваюцца трагічныя падзеі ва Ўкраіне і на людзей вывальваюць тоны прапаганды ў горшых гебельсаўскіх традыцыях. У раённых цэнтрах кожны з актывістаў ходзіць пад дамоклавым мячом кожны дзень і мой прыклад – яскравае таму пацверджанне», - кажа Дзяніс Рабянок.

http://spring96.org/be/news/70293

# Отказ белорусов от протеста — способ выживания при режиме Лукашенко

**В третью годовщину массовых протестов в Минске, разогнанных властями, венгерский социолог Пал Тамаш объяснил DW причины снижения протестного потенциала белорусского общества.**

19 декабря исполнилось три года акции протеста в Минске, участники которой протестовали против фальсификации итогов президентских выборов. В этот день в 2010 году на улицы белорусской столицы вышли, по разным оценкам, от 20 до 50 тысяч человек, выступление которых было жестко подавлено милицией. В последние годы, по данным Независимого института социально-экономических и политических исследований (НИСЭПИ), протестный потенциал белорусского общества невысок. Открыто выступать против власти готовы лишь около 5 процентов населения. По мнению известного венгерского социолога, директора центра политики реформ Будапештского университета Корвинус Пала Тамаша, отказ от сопротивления для белорусов стал способом выживания в условиях авторитарного режима.

**DW: Что произошло с белорусским обществом за 20 лет правления Александра Лукашенко?**

Пал Тамаш: Ситуация в Беларуси ничем не отличается от других постсоветских стран. Политические лозунги и программы, актуальные в начале 90-х годов прошлого века, исчерпали себя. Тогда многие считали, что к модернизации общественного сознания приведет национальный язык и культура, но этого не случилось.Сегодня белорусы могли бы искать идентичность в своем восприятии внешнего мира. На их земле сильны восточнославянские и польско-католические традиции. Но главное, что я отметил во время моей поездки в Беларусь минувшим летом, это то, что люди сумели удивительным образом изолировать себя от реальности.Несмотря на возможность выезжать, они имеют слабое представление о том, как устроен мир на Западе. Нереалистичное преставление и о том, что происходит в соседних России и Украине. У белорусов нет базы для сопоставления, они уверены, что в других странах нестабильно и опасно, а в Беларуси все запрограммировано и спокойно. И эта стабильность их вполне устраивает.

**— Этим и объясняется отказ белорусов от протестов против политики властей?** — Ошибочно думать, что в Беларуси основной вопрос — ты за режим или борешься с ним? На самом деле в стране есть огромная масса людей, которая вовсе не является частью системы. Но они не стали и бороться, и это способ выживать.Когда-то я читал в западных СМИ о том, что Беларусь — СССР в миниатюре. Но режим — это часть жизни людей. Всего лишь неблагоприятные метеоусловия, когда можно открыть зонт, и он спасет от непогоды. Понятно, что если твои дети не видят солнца, это плохо. Но общаясь с белорусскими учеными, писателями, художниками, я понял, как легко выжить в таком полутоталитарном государстве сохранить себя, если встать на путь коллаборационизма.

**— Почему белорусское общество равнодушно в отношении авторитарной власти, политзаключенных в тюрьмах и не идет за оппозицией?** — Диктатура давит лишь на определенную часть общества. Для большинства белорусов слово «диктатор» не означает брутальности кнута. Уверяю вас, что многие просто не знают о том, что в стране есть политзаключенные, и у людей нет знакомых, которые сидели бы в тюрьме «за политику», поэтому такой проблемы для белорусов не существует.Подготовку к переменам осуществляет обычно средний класс, который в Беларуси в значительной степени зависим от власти, поэтому он не воспринимает призывы оппозиционеров. То есть оппозиция не имеет никаких точек соприкосновения с миром белорусов, в ответ они не желают ничего слышать о мире оппозиции, хотя многие не против перемен.

**— Означает ли это, что на скорые изменения в стране надеяться не приходится?** — Надо сказать, что из открытого западного котла и закрытого кипящего советского чайника Лукашенко умело скомбинировал свой вариант — облегченный советский котел-light. Конечно, в Беларуси много структур, похожих на советские. В то же время там есть предпринимательство, жители могут съездить на Запад, нет ощущения закрытости в собственной стране. Конечно, в Беларуси нет западных свобод, но оказалось, что многим этого достаточно. Могу привести в пример Венгрию, где действующий премьер **Виктор Орбан**, по сути, очень похож на Лукашенко. Но сомневаюсь, что на выборах в следующем году оппозиции удастся его победить, потому что он нашел множество способов для удержания власти — кого-то убедил, кого-то купил. Кроме того, выяснилось, что для 80 процентов венгров политические свободы — это не самое главное.

**— Как могут повлиять на изменение сознания белорусского общества события на Майдане?** — Пока еще неизвестно, чем все закончится на Украине. Но если оппозиция победит, то Майдан мог бы стать флагом для изменений в Беларуси. Победа означала бы, что и в Беларуси можно успешно проводить протестные акции, выставлять требования власти и выстоять.Правда, белорусским активистам важно помнить, каким печальным был итог «оранжевой революции» 2004 года после всплеска энтузиазма и самоотверженности. Я считаю, что и в Беларуси новый постлукашенковский режим будет недемократическим, потому что тысячи белорусов, которые чувствовали себя комфортно при Лукашенко (не обязательно представители власти), не захотят быть обвиняемыми в судах. Если оппозиция хочет победы, стоит дать им возможность для «отхода». Надо готовить список компромиссов, а не список люстрации.

+ Пал Тамаш: Для Беларуси «окно возможностей» откроется лишь через 20-30 лет

*Мазырскія* **НАВІНЫ**
ГРАМАДСКА-ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ВЫДАННЕ
Наклад 299 асобнікаў
Эл. адрас рэдакцыі: mazyrcivil@gmail.com